№9(105)
Травень 2002

# Права на волю

Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна"

## Папярэджаньне журналісту НТВ

Аляксандр Лукашэнка, выступаючы перад дэпутатамі гэтакзванага "нацыянальнага сходу" Беларусі заявіў, што папярэджвае карэспандэнта расійскай тэлекампаніі НТВ Паўла Селіна пра мажлівыя наступствы асьвятленьня журналістам падзеяў 19 красавіка ў Мінску, калі беларускія міліцыянты і амапаўцы жорстка разагналі мірную дэманстрацыю дэмакратычных сілаў. Па словах Лукашэнкі, "апазіцыі напярэдадні сустрэчы Уладзіміра Пуціна і Джорджа Буша неабходна было паказаць негатыўную "карцінку" з Беларусі пра парушэньні правоў чалавека", і Павел Селін тэндэнцыйна "выканаў заказ"...

## Суд зноў перанесены

Судзьдзя Ленінскага раённага суда г.Гародня Тацяна Клімава, прызначаная весьці працэс над журналістамі "Пагоні", што абвінавачваюцца ў паклёпе на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, замест судзьдзі Мікалая Сяргейкі, які раптоўна захварэў 9 красавіка ў дзень пачатку суда, 3 траўня аб'явіла аб пераносе судовага паседжаньня на іншы дзень. Сваё рашэньне Тацяна Клімава патлумачыла тым, што яна не пасьпявае да раней прызначанага ёй жа тэрміну "завяршыць справу па наркотыках".

Тацяна Клімава ў журналісцкім асяродзьдзі Гародні вядомая тым, што ў 2001 годзе прызнала журналіста Анджэя Пісальніка вінаватым у "абразе гонару і годнасьці". Пазьней рашэньне Тацяны Клімавай было адмененае судом Гарадзенскай вобласьці ў касацыйным парадку.

Суд над журналістамі "Пагоні", мажліва, адбудзецца 16 траўня, калі зноў не здарыцца пераносу.



Фота "ПнВ"

# Хочам ведаць праўду!

7 траўня, у дзень, калі тры гады таму зьнік бяз вестак былы міністр унутраных справаў РБ генерал Юры Захаранка, у цэнтры Мінску адбылася акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей". У ёй ўзялі ўдзел дзясяткі мінчукоў. Удзельнікі акцыі трымалі ў руках партрэты зьніклых за гэтыя гады Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага,

(Працяг на стар. 2)



Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"



Фота "ПнВ"

# ГА ПЦ "Вясна" просіць даць тлумачэньне

***Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнуўся ў Вярхоўны і Канстытуцыйны суды Рэспублікі Беларусь па тлумачэньні адносна законнасьці рашэньняў судзьдзяў накіроўваць затрыманых падчас акцыі 19 красавіка назад у сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік пасьля таго, як яны на судовых паседжаньнях прасілі адвакацкай дапамогі. У звароце сказана:***

"Падчас разгляду адміністратыўных справаў над удзельнікамі несанкцыянаванага шэсьця 19 красавіка 2002 годуа ў судах Савецкага, Цэнтральнага і Партызанскага раёнаў г. Мінску сябрамі Грамадзкага аб'яднаньня "Праваабарончы цэнтр "Вясна", якія ажыцьцяўлялі маніторынг правядзеньня судовых паседжаньняў, была выяўленая новая тэндэнцыя ў выкарыстаньні ч.3 арт. 242 КаАП Рэспублікі Беларусь. Праблема датычыцца трактаваньня тэрмінаў адміністратыўнага затрыманьня.

Удзельнікі несанкцыянаванага шэсьця, затрыманыя супрацоўнікамі міліцыі 19 красавіка 2002 году, утрымліваліся ў аб'яднаным сьпецпрыёмніку-разьмеркавальніку ГУУС Мінгарвыканкаму да 22 красавіка 2002 г. – г.зн., яны былі затрыманыя ў адпаведнасьці з ч.3 арт.242 КаАП Рэспублікі Беларусь да разгляду справы судом. 22 красавіка, падчас разгляду справаў у судах Савецкага, Цэнтральнага, Партызанскага раёнаў г. Мінску некаторыя з адміністратыўна затрыманых, згодна з арт. 250 КаАП Рэспублікі Беларусь, заявілі хадайніцтвы аб удзеле адвакатаў пры разглядзе справы. Судзьдзі задавальнялі хадайніцтвы і, паколькі дзеля заключэньня дамовы з адвакатамі быў неабходны час, судовыя паседжаньні пераносіліся на больш позьні тэрмін. Затрыманых адвозілі ў сьпецпрыёмнік, дзе яны ўтрымліваліся да новага судовага паседжаньня. Ва ўмовах зьняволеньня яны ня мелі магчымасьці знайсьці адвакацкую дапамогу. Тое ж самае адбывалася і ў выпадку няяўкі сьведкаў.

Такім чынам, грамадзяне былі затрыманыя да суда на працягу 4 дзён (з 19.04.02 па 23.04.02 г.). Пры гэтым прадстаўнікі сілавых ведамстваў і судзьдзі, якія разглядалі справы, заяўлялі, што, згодна з ч. 3 арт. 242 КаАП Рэспублікі Беларусь, яны маюць права затрымліваць правапарушальнікаў "да разгляду справы судом", што значыць – да разгляду справы па сутнасьці, да высьнясеньня пастановы па справе.

Згодна з ч.2 арт.257 КаАП Рэспублікі Беларусь, справа аб адміністратыўным правапарушэньні па арт. 167.1 КаАП разглядаецца на працягу трох сутак з дня атрыманьня судом пратаколу аб адміністратыўным правапарушэньні. У сувязі з гэтым, можна зрабіць выснову, што асобы, затрыманыя ў пятніцу ўвечары, могуць утрымлівацца ў ізалятары тэрмінам да 6 сутак, паколькі адміністратыўны матэрыял пасту-піць у суд толькі ў панядзелак. На нашую думку, падобная практыка супярэчыць патрабаваньням арт. 25 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Акрамя таго, асобы, якія ўтрымліваюцца ў сьпецпрыёмніку да суда, пазбаўляюцца магчымасьці заключыць дамову з адвакатам, паколькі хадайніцтва аб удзеле адваката заяўляецца непасрэдна ў судовым паседжаньні, а знайсьці адваката, знаходзячыся ў сьпецпрыёмніку, немагчыма. Гэта зьяўляецца абмежаваньнем канстытуцыйнага права грамадзянаў на абарону (арт. 62 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь).

Раней судовая практыка разгляду падобных справаў сьведчыла аб тым, што тэрмін "да разгляду справы судом" трактаваўся як пачатак судовага паседжаньня, прыняцьце справы да судовай вытворчасьці. У выпадку пераносу справы на іншы тэрмін, у тым ліку ў сувязі з заяўленым хадайніцтвам аб удзеле адваката, грамадзянам выпісваліся судовыя позвы, і яны адпускаліся на волю.

У сувязі з гэтым, кіруючыся арт. 47 Закону Рэспублікі Беларусь "Аб судаўстройстве і статусе судзьдзяў", Грамадзкае аб'яднаньне "Праваабарончы цэнтр "Вясна" просіць даць афіцыйнае тлумачэньне ч.3 арт. 242 КаАП Рэспублікі Беларусь, у прыватнасьці:

1. Што азначае тэрмін, да "разгляду справы судом", які ўжываецца ў ч.3 арт.242 КаАП Рэспублікі Беларусь.

2. Які максімальны тэрмін адміністратыўнага затрыманьня прадугледжваецца ў адпаведнасьці з ч.3 арт. 242 КаАП Рэспублікі Беларусь".

# Хочам ведаць праўду!

*(Пачатак на стар.1)*
Дзьмітрыя Завадзкага, памерлага пры да канца нявысьветленых абставінах Генадзя Карпенкі і, вядома ж, – Юрыя Захаранкі. У шэрагах людзей, якія прыйшлі выказаць свой пратэст бязьдзеяньню ўладаў у пошуках злачынцаў, былі вядомыя палітыкі, журналісты, праваабаронцы: Аляксандр Дабравольскі, Юры Хадыка, Міхаіл Чыгір, Валеры Шчукін і інш.

***7 траўня*** акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей" адбылася і ў іншых гарадах Беларусі.

***У Гомелі*** ў скверы Грамыкі падчас акцыі пры распаўсюджаньні праваабарончага бюлетэню "Права на волю" быў затрыманы старшыня Гомельскага абласнога аддзяленьня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Анатоль Паплаўны. Затрыманьне праводзіў начальнік Цэнтральнага РУУС г. Гомелю Іван Смолікаў, які выклікаў нарад міліцыі і даставіў праваабаронцу ў РУУС Цэнтральнага раёну. Там оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Сувега Ю.М. узяў тлумачэньне ў затрыманага і склаў акт аб канфіскацыі бюлетэняў (35 асобнікаў). Пры гэтым Сувега пры складаньні тлумачальнай не карыстаўся паслугамі перакладчыка з беларускай мовы і "старшыня" пераклаў як "начальнік", а "Праваабарончы цэнтр" як "Праваахоўчы цэнтр".

***У Магілёве*** дзясятак актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі і моладзевага руху "Зубр", трымаючы партрэты Ю.Захаранкі, каля 30-ці хвілінаў сталі на цэнтральнай вуліцы гораду. Мерапрыемства прайшло без здарэньняў.

***У Берасьці*** на вуліцы Савецкай каля кінатэатру "Беларусь" у "ланцугу" прымалі ўдзел грамадзяне Берасьця і Пружанаў. Яны трымалі ў руках партрэты зьніклых: Ю. Захаранкі, В. Ганчара, А. Красоўскага і Дз. Завадзкага. Мінакі падыходзілі проста пагутарыць, цікавіліся акцыяй, выказвалі маральную падтрымку ўдзельнікам "ланцуга".

*На здымках – 7 траўня ў Мінску.*


Фота "ПнВ"


Фота "ПнВ"

# Як я быў "добраахвотнікам"

## Згадкі з нагоды чарговых угодкаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС

Увесну 1986 году я вучыўся на 4 курсе Мінскага інстытуту замежных моваў. 27 красавіка да мяне завітаў сябра і распавёў, што ў Акадэміі навук прыборы, якія рэгіструюць узровень радыяцыі, "зашкаліла", а "галасы" паведамілі, нібыта ў Швецыі гэта таксама зарэгістравана і мяркуюць, што эпіцэнтр выпраменьваньня знаходзіцца на тэрыторыі Савецкага Саюзу і што трэба спажываць ёд!

Саюзныя сродкі масавай інфармацыі адмоўчваліся. Дзяўчатак з нашага інстытуту ды іншых навучальных установаў рэгулярна ў добраахвотна-прымусовым парадку з голымі ручкамі і ножкамі выpraваджвалі на рэпетыцыі Першатравеньскай дэманстрацыі, дзе яны з энтузіязмам вучыліся махаць штучнымі кветкамі ў падзяку КПСС, КПБ і Палітбюро за клопат аб дабрабыце і здароў'і савецкага народу пад пякучым красавіцкім сонцам.

Нягледзячы на маўчаньне савецкай прэсы – усе пра аварыю ў Чарнобылі ўжо ведалі. Ня ведалі толькі, у якіх дозах прымаць ёд, а таму медперсанал шпіталяў і паліклінік інтэнсіўна займаўся спаленымі глоткамі.

Стыхійна пачаўся масавы зыход насельніцтва з пацярпелых раёнаў і ў першую чаргу сваякоў кіраўнікоў і медыкаў, за імі пацягнуліся сьведамыя працоўныя масы. І нарэшце пра Чарнобыльскую аварыю паведаміла савецкая прэса. Пачаўся прызыў рэзервістаў у забруджаныя раёны і эвакуацыя насельніцтва адтуль.

У мяне было шмат знаёмых у мэдінстытуце, і я даведаўся, што студэнты замяняюць медыцынскі персанал у паліклініках і шпіталях, бо значная частка медработнікаў як вайсковаабавязаныя забраныя ў войска.

Увосень 1986 году надышла чарга і студэнтаў нашага інстытуту: прыйшоў ліст з Міністэрства адукацыі, што ў забруджаных раёнах не хапае настаўнікаў і тэрмінова трэба 4 "добраахвотнікі". У рэктарат былі выкліканыя тыя дзяўчаты, якія мелі праблемы з вучобай, і ўсе хлопцы. Запускалі па адным у кабінет рэктара, там паўкругам сядзела амаль усё кіраўніцтва інстытуту, зіхцелі зоркі афіцэраў-выкладчыкаў вайсковай кафедры.

"Радзіма ў цяжкай сітуацыі, патрэбная вашая дапамога. Вы згодныя ехаць працаваць?" – пыталіся ў кожнага.

Адказ быў адназначным: "Не!" Адмовіліся ўсе. Тады размова пайшла інакш. Ізноў запускалі па адным... Аднак гэтым разам, як і трэба было чакаць, згадзіліся паехаць усе. Месцаў было толькі 4, а таму рэктар Краснова, каб іншым не прыходзіла ў галаву спрачацца з кіраўніцтвам інстытуту, пазваніла ў міністэрства і паведаміла: "У нас ёсьць яшчэ 29 добраахвотнікаў! Забясьпечце іх працай у пацярпелых раёнах!" Дарэчы, калі ў інстытуце нас выпраўлялі ў чарнобыльскія раёны, дык абяцалі двайны заробак, харчаваньне, жытло. Насамрэч атрымалася наадварот.

Я трапіў на працу настаўнікам ангельскай мовы ў Вербавіцкую сярэднюю школу Нараўлянскага раёну Гомельскай вобласьці. Прыехаў я ў Вербавічы ў сьнежні. Усе спадзяваліся, што сьнег прыкрые зямлю і радыяцыйны фон зьнізіцца. Мне выдзелілі пакойчык пры школе: вялізнае вакно з такімі шчылінамі паміж рамай і сьцяною, што не было магчымасьці іх добра заканапаціць, грубка была малая, цяпла не трымала, і цёпла было толькі да той пары, пакуль гарэлі дровы.

Была ў школе і свая кацельня, але старшыня калгасу падключыў да яе акрамя школы свой гараж. Кацельня малая, і калі цяпла гаражу было дастаткова, дык дзеці ў класах мусілі сядзець на ўроках у футрах і валёнках, я ж гібеў у сваім пакойчыку і ў дзень і ў начы ад холаду.

Сярэдняя школа ў Вербавічахуяўляла сабою двухпавярховы цагляны будынак. Вучняў у кожным класе было ад двух да дзевяці чалавек. Гэта былі дзеці, якія на кароткі час прыязджалі ў Вербавічы, каб пабачыцца з бацькамі ў перыяды паміж "аздараўленьнямі". Настаўнікаў на ўсе прадметы не хапала, і я мусіў выкладаць акрамя ангельскай мовы, алгебру, геаметрыю, фізкультуру, нешта яшчэ (усяго ўжо не памятаю) і пачатковую вайсковую падрыхтоўку. Паводле апошняй я мусіў вымяраць узровень радыяцыйнага фону ў вёсцы з дапамогай даўно састарэлага абсталяваньня. "Сьвяцілася" ўсё: і платы, і хаты, і гурба вуглю каля дзьвярэй будынку, дзе я жыў, і лаўка на аўтобусным прыпынку, і зямля... Па ўсіх, нават тагачасных, мерках жыць там было нельга. Але людзі працавалі на забруджанай зямлі, вазілі з "чыстых" раёнаў сена для кароў на ферму, якая знаходзілася ў адселенай зоне, і былі ўпэўненыя, што на іх ставяць эксьперыменты. Потым я даведаўся, што мясцовыя кіраўнікі сьпецыяльна заніжалі ўзровень радыяцыі, каб не адсяляць людзей, а значыць захаваць Нараўлянскі раён як адміністратыўную адзінку і свае пасады.

Лазьня ў вёсцы павінна была працаваць круглыя суткі, каб кожны жыхар пасьля працы мог змыць радыёактыўны пыл. Насамрэч лазеншчык запускаў людзей толькі на пару гадзінаў увечары, пасьля таго як старшыня калгасу "зьніме першы парок"... Гэтага "дабрадзея" заўсёды адпарвала некалькі калгасных халуёў, да якіх старшыня адгукаўся выключна па-руску – матам. Калі трэба было пакараць непаслухмяных вяскоўцаў, дык нехта з гэтых "халуёў", за гарэлку і нападпітку, мог паганяць небараку з сякерай. Сам жа старшыня калгасу ў вёсцы ня жыў – жыў у райцэнтры.

З харчаваньнем справы выглядалі наступным чынам: кожнаму жыхару вёскі выдаваўся паёк – на месяц адна бутэлька гарэлкі (выводзіць радыёнукліды), кіло кансерваванай тушонкі (у нас была кітайская) і яшчэ нейкія неістотныя дробязі. На такім пайку месяц не працягнеш. Мясцовыя, ня гледзячы на забарону, карысталіся сваімі хатнімі запасамі. Мне ж не выдаваўся нават



паёк – я ня быў там прапісаны. Дырэктар школы парупіўся, і мяне ўключылі ў спіс на паёк як настаўніка. Але напрацягу 2 месяцаў прадаўшчыца ў вясковай краме не выдавала мне той паёк, казала, што мяне ў сьпісах няма. Больш за тое, адмаўлялася прадаваць тое харчаваньне, што было на паліцах крамы. А таму каб "атаварыцца", я мусіў езьдзіць у Нароўлю, а часам і далей. Неўзабаве мне прапанавалі працаваць яшчэ і ў Нараўлянскай сярэдняй школе. Дырэктар гэтай школы меў больш уплывы ў раёне і запісаў мяне на харчаваньне як бацьку 5-х дзетак. Згадваецца сьмешны, але красамоўны выпадак. Калі я першы раз сказаў прадаўшчыцы ў нараўлянскай краме, што ў мяне 5 дзяцей, яна, гледзячы на маю маладосьць, спытала: "А колькі малодшаму год?" "Адзін"– адказваю. Яна: "Грудныя мяса не ядуць!" І я атрымаў адным пайком меней. Больш такіх памылак не рабіў.

Так і працаваў я 2 дні ў Нароўлі і 4 ў Вербавічах. Ад райцэнтру да вёскі было каля 9 кіламетраў. Аўтобусы хадзілі кепска. З-за марадзёраў мясцовым кіроўцам не раілі падвозіць нават сваіх знаёмых. А таму самым надзейным сродкам транспарту сталі ўласныя ногі. Ісьці пешкі 9 кіламетраў у мароз – холадна. Каб сагрэцца, я бегаў.

Часамі на ўскрайку лесу паабапал дарогі зьяўляліся зграі ваўкоў, і тады па-сапраўднаму рабілася жудасна. Мясцовыя казалі, што гэта не ваўкі, а зьдзічэлыя сабакі, якіх пасьля эвакуацыі насельніцтва засталося многа. Яны былі больш небясьпечнымі, чым ваўкі, бо галодныя, злыя не баяліся нападаць на чалавека.

Што тычыцца двайных заробкаў, дык іх не плацілі, але той, хто быў прапісаны ў раёне, атрымліваў 15 рублёў "грабавых". Калі я паспрабаваў высьветліць пытаньне пра абяцаныя двайныя заробкі ў старшыні Нараўлянскага РАНА, ён мне патлумачыў: "Твой другі заробак – стыпендыя..."

*(Працяг на стар. 7)*

# Зьвестак няма...

## Тры гады прайшло з таго дня, як зьнік міністр унутраных справаў Рэспублікі Беларусь генерал Юры Захаранка

Экс-міністр унутраных справаў, генерал Юры Захаранка быў выкрадзены недалёка ад уласнага дому ўвечары 7 траўня 1999 году. Сьведкі выкраданьня, якія былі знойдзеныя ня сьледчымі органамі, а грамадзкай камісіяй па пошуках зьніклага генерала, сьцьвярджаюць, што Захаранка быў гвалтоўна зьвезены некалькімі мужчынамі. Па словах жонкі Юрыя Захаранкі, яму і раней выказваліся ананімныя пагрозы. 7 траўня Захаранка каля 10 гадзінаў вечару прыехаў на ўласнай машыне дадому. Ён прыпаркаваў машыну на стаянцы, якая была недалёка ад дому (хвілінаў 15 пехатой), і пазваніў жонцы з сотавага тэлефону. Сказаў, што ён ужо прыехаў і зараз прыйдзе. Аднак дахаты Юры Захаранка не прыйшоў. Жонка Юрыя Захаранкі – Вольга сьцьвярджае: «Я пастаянна казала яму: Юра, ён (Лукашэнка) усё адно альбо заб'е цябе, альбо пасадзіць. Пакінь ты яго ў спакоі. Аднак Юра заўсёды адказваў: я са сваёй Беларусі нікуды не паеду і буду хадзіць з высока ўзьнятай галавой… Юра яго не баяўся. Ніхто ж не адважваўся сказаць, што ён – забойца. Гэта страшная сіла, якая, ня грэбуючы ніякімі метадамі, зьнішчае ўсіх прыстойных людзей. Але па-ранейшаму кожны думае толькі пра сябе і спадзяецца, што гэта яго не закране. Мой Юра таксама так думаў…» Пазьней адзін сьведка, які вельмі прасіў не называць яго імя, казаў, што бачыў, як невядомыя гвалтоўна запіхалі Захаранку ў чырвоную машыну і зьвезьлі ў невядомым накірунку.

Некалькі гадоў таму Захаранка быў звольнены са сваёй пасады як чалавек, які не падзяляе пункт гледжаньня прэзідэнта і ягонага атачэньня. Эксcілавік карыстаўся павагай у асяродку сваіх калегаў, займаўся стварэньнем Саюзу афіцэраў Беларусі. Таму ягоная апазіцыйная дзейнасьць была асабліва небясьпечнай для ўладаў. Захаранка быў вельмі актыўным апазіцыйным дзеячам, уваходзіў у АГП. Былі чуткі, што падчас рэферэндуму 1996 году Захаранка вёў таемныя перамовы з дзеючымі сілавікамі, аб тым, што ў выпадку адхіленьня Лукашэнкі ад улады праз працэдуру імпічменту, прэзідэнт будзе адразу ж арыштаваны і асуджаны за спробу некастытуцыйнага захопу ўлады. Аднак жыцьцё распарадзілася пасвойму.

Гартаючы старонкі газетаў, сьвежых і з пажоўклымі ўжо старонкамі, знаходзіш ня толькі пытаньні, але і адказы, якія чытаюцца між радкоў.

Газета Міністэрства ўнутраных справаў РБ "На страже" 26 ліпеня 1994 году павіншавала супрацоўнікаў міліцыі ўсіх рангаў і службаў з чацьвёртай гадавінай незалежнасьці Беларусі. На першай паласе "На страже" зьмясьціла матэрыял пад назвай "Кто нас в бой ведет?" Адказ быў наступны – прэзі-



Юры ЗАХАРАНКА

дэнт (Аляксандр Лукашэнка), прэм'ерміністр (Міхаіл Чыгір), Міністр унутраных справаў (Юры Захаранка). Каля кожнага – фотаздымак і кароткая біяграфія.

Пра Юрыя Захаранку газета "На страже" пісала наступнае: 26 ліпеня 1994 году А.Лукашэнка прадставіў новага міністра ўнутраных справаў палкоўніка міліцыі Юрыя Захаранку цэнтральнаму апарату МУС. Кіраўнік дзяржавы паабяцаў 40-гадоваму кіраўніку падтрымку добрых пачынаньняў. Ю.Захаранка ўпэўніў прэзідэнта, што органы ўнутраных справаў навядуць парадак як у сваіх шэрагах, так і ў рэспубліцы. "Да ўлады прыйшла новая каманда, — сказаў Аляксандр Рыгоравіч. – Яна расстаўляе новых кіраўнікоў. Гэта цывілізаваны працэс".

Юры Мікалаевіч Захаранка нарадзіўся ў студзені 1952 году ў горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёну. Беларус. Пасьля тэрміновай службы на Балтфлоце скончыў Валгаградзкую вышэйшую сьледчую школу МУС, працаваў сьледчым у Сьветлагорску, начальнікам сьледчага аддзяленьня Чыгуначнага РУУС г.Гомелю, начальнікам Сьледчага камітэту МУС. У 1994 годзе прызначаны міністрам Унутраных справаў Рэспублікі Беларусь.

У адным са сваіх першых інтэрв'ю ў газеце "На страже" (30 верасьня 1994 году) Юры Захаранка казаў: "Асноўны прыярытэт органаў унутраных справаў – гэта барацьба з тымі злачынствамі, якія наносяць найбольшыя страты людзям і дзяржаве. Выкраданьне асабістай маёмасьці, забойствы, эканамічныя і арганізаваныя злачынствы — поле дзейнасьці агромністае. Метады выяўленьня, раскрыцьця і абясшкоджаньня злачынцаў будзем выкарыстоўваць самыя сучасныя і жорсткія".

Аднак амаль з першых дзён яму давялося сутыкацца з тым, што як кіраўнік МУС ён павінен змагацца не са злачынцамі, а з іншадумцамі. Гэта не падабалася Захаранку. У фільме Хашчавацкага «Звычайны прэзідэнт» ёсьць фрагмент інтэрв'ю з Ю. Захаранкам, дзе ён распавядае, як аднойчы Лукашэнка сказаў яму, што ён павінен выканаць любы ягоны загад. На што Захаранка адказаў: парушаць законы і Канстытуцыю ня будзе. Тады Лукашэнка паабяцаў, што адзене на яго кайданкі і арыштуе. Захаранка казаў, што гэта стыль працы прэзідэнта – запалохваньне. Моцныя зьнішчаюцца, а слабыя ламаюцца – сказаў у тым інтэрв'ю Захаранка.

Зьнікненьне Юрыя Захаранкі было першым зьнікненьнем у Беларусі. У адрозьненьне ад выпадку выкраданьня Анатоля Красоўскага і Віктара Ганчара, а таксама Дзьмітрыя Завадзкага, выкраданьне Ю.Захаранкі не пакінула ніякіх рэчавых доказаў, а крымінальная справа па факце зьнікненьня генерала так і не была ўзбуджаная. У 2001 годзе сям'я Захаранкі эмігравала ў Нямеччыну. Аднак на радзіме Захаранкі ў горадзе Васілевічы Рэчыцкага раёну Гомельскай вобласьці засталася маці Захаранкі – Улляна Рыгораўна. Кожны дзень чакае яна свайго сына і спадзяецца, што ён вернецца да яе. Улляна Рыгораўна зьвярнулася да А.Лукашэнкі: «Аляксандр Рыгоравіч, адна ў мяне радасьць і надзея на гэтым сьвеце засталася – убачыць перад сьмерцю сынка, хаця адным вокам на яго зірнуць. Адпусьціце вы яго, дайце такую каманду. Хрыстом-Богам малю! А інакш Бог вам не дарує. Адумайцеся, і ў вас ёсьць маці. І жонка ў вас ёсьць, і два сыны. Не дай Бог, вы ў старасьці без дзяцей застанецеся. Тады і мяне зразумееце. Але будзе ўжо позна».

Падчас падрыхтоўкі і правядзеньня прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі ў незалежных СМІ пачалі зьяўляцца ананімныя і неананімныя сьведчаньні па справах зьніклых.

Першы ананімны ліст ад афіцэра КДБ быў перададзены ў рэдакцыі незалежных газетаў 20 лістапада 2000 году. Згодна з выкладзенай у гэтым лісьце інфармацыяй, на сьлед злачынцаў па справе Дз.Завадзкага КДБ выйшаў пасля арышту Ігнатовіча, які ваяваў на баку чачэнскіх сепаратыстаў. Падчас сьледзтва Ігнатовіч назваў прозьвішчы яшчэ некалькіх прадстаўнікоў сьпецпадразьдзяленьняў Беларусі, якія былі інструктарамі ў чачэнцаў. Згодна з інфармацыяй ананіма, пяцёра затрыманых разам з Ігнатовічам — афіцэры службы бясьпекі прэзідэнта Лукашэнкі, адзін былы і адзін тагачасны супрацоўнік «Алмазу». Згодна з гэтым лістом, затрыманыя прызналіся ў тым, што забілі Завадзкага і паказалі месца

ягонага пахаваньня ў лясной зоне недалёка ад Мінску. У распараджэньне сьледства патрапіла рыдлёўка са сьлядамі крыві Завадзкага. Аднак эксгумацыю трупу Завадзкага так і не правялі, бо гэта не дало правесьці сьледчай групе кіраўніцтва Савету бясьпекі (узначальвае В. Шэйман) і асабіста прэзідэнт. *Справа была перададзеная ад КДБ у МУС* (узначальвае У. Навумаў – былы кіраўнік службы бясьпекі прэзідэнта). Усё гэта было зроблена, каб разваліць *сьледзтва. У лісьце сьцьвярджалася,* што арыштаваныя маюць дачыненьне і да зьнікненьняў В.Ганчара і Ю.Захаранкі. У ліквідацыі В.Ганчара прымала ўдзел каля 14 чалавек. Таксама сьцьвярджалася, што на сьледзтва з самага пачатку аказваўся ціск.

У адказ на гэта ўжо 27 лістапада Лукашэнка зрабіў шэраг перастановак у сілавых ведамствах. Ад займаемых пасадаў былі вызваленыя Генеральны пракурор А.Бажэлка (яго замяніў былы старшыня Савету бясьпекі В.Шэйман), старшыня КДБ У. Мацкевіч. Як паказаў час, гэтыя перастаноўкі былі невыпадковыя і мелі прамое дачыненьне да зьяўленьня ў друку інфармацыі пра зьніклых.

**11** чэрвеня 2001 году на адрас беларускіх СМІ, грамадзкіх і праваабарончых арганізацыяў прыйшло інтэрв'ю з супрацоўнікамі сьледчай групы па справе зьніклага аператара ОРТ Дзьмітрыя Завадзкага Дзьмітрыем Петрушкевічам і былым сьледчым пракуратуры Алегам Случакам. У гэтым відэаінтэрв'ю, якое было запісана за межамі Беларусі, Дз.Петрушкевіч і А.Случак прадставілі некаторыя дакументы са справы Завадзкага, у прыватнасьці копію экспертызы рыдлёўкі, знойдзенай у машыне Ігнатовіча. З гэтага дакументу вынікала, што кроў на рыдлёўцы належыць Завадзкаму. Таксама былі прадстаўленыя копіі пастановы пра затрыманьне кіраўніка СОБР Дзьмітрыя Паўлічэнкі, *санкцыянаванае* КДБ і Пракуратурай. Дз.Паўлічэнка быў зьмешчаны ў сьледчы ізалятар КДБ, дзе Генеральны пракурор РБ Алег Бажэлка меў з ім асабістую размову і патрабаваў ад яго, каб той прызнаўся: дзе ўсё ж знаходзіцца журналіст Завадзкі? Ад Паўлічэнкі паступіла інфармацыя, што


А.Лукашэнка прадстаўляе Ю.Захаранку.

труп Завадзкага знаходзіцца пад Мінскам, у раёне Паўночных могілак. (Хутчэй за ўсё, там жа знаходзяцца і целы зьніклых В.Ганчара, А.Красоўскага і Ю.Захаранкі). У той жа дзень прыблізна было выяўленае месца, дзе знаходзіцца труп, бо ніхто не сумняваўся, што Завадзкі забіты.

Генеральны пракурор А.Бажэлка асабіста падпісаў запыт на імя Генеральнага пракурора Расіі Усьцінава. Ён прасіў прадаставіць тэхніку, прызначаную *для пошуку трупаў у зямлі, а* таксама сьпецыялістаў, бо ў Беларусі такая тэхніка на той момант адсутнічала. Пасьля гэтага 27 лістапада 2000 году ўказам Лукашэнкі са сваіх пасадаў былі зьнятыя Генеральны пракурор, міністр культуры і старшыня КДБ, а на наступны дзень Генеральнаму пракурору РФ Усьцінаву накіроўваецца паведамленьне аб тым, што неабходнасьць у прадастаўленьні тэхнікі для пошуку адпала. Паўлічэнка быў выпушчаны са сьледчага ізалятару КДБ – выпусьцілі яго супрацоўнікі Савету бясьпекі па асабістым указаньні сакратара Савету бясьпекі В.Шэймана...

Са словаў Петрушкевіча, кіраваў следча-аператыўнай групай міністр Унутраных справаў У.Навумаў, які добра *знаёмы з западозранымі ў арганізацыі* зьнікненьняў Ігнатовічам і Малікам. У.Навумаў наведваў абодвух у сьледчым ізалятары... На думку Петрушкевіча, ён інфармаваў падазраваемых, бо злачынцы ведалі дадзеныя амаль пра ўсіх членаў сьледчай групы. Малік і Ігнатовіч пастаянна пагражалі членам сьледчай групы. Яны ведалі дадзеныя пра асабістае жыцьцё кожнага, дзе хто жыве з членаў сям'і сьледчай групы...

Пасля таго як намаганьнямі Лукашэнкі Генеральным пракурорам РБ быў прызначаны В.Шэйман, сьледзтва па гэтай справе ператварылася ў фарс.

**А**лег Случак у гэтым інтэрв'ю распавёў і перадгісторыю стварэньня на *Беларусі групы, якая потым атрымала* назву "эскадрон сьмерці".

Пасьля рэферэндуму 1996 году сакратар бясьпекі РБ Віктар Шэйман даў даручэньне камандуючаму ўнутранымі войскамі Сівакову стварыць каманду, якая магла б выконваць любыя даручэньні кіраўніцтва краіны. Сівакоў даручыў афіцэру брыгады сьпецыяльнага прызначэньня СОБР Дзьмітрыю Паўлічэнку падабраць людзей дзеля выкананьня сьпецаперацыяў. Была створаная група, у якую ў розныя часы ўваходзілі абвінавачваемыя па крымінальных справах па выкраданьнях і забойствах людзей – Ігнатовіч, Гуз, Малік, Савушкін, а таксама 5-6 чалавек, нявызначаных сьледзтвам. Групу ўзначальваў Паўлічэнка. Групе было загадана распрацаваць схему выкраданьня і забойства людзей, якая павінна была выключаць магчымасьць знаходкі трупаў. Бо калі няма трупу – няма і злачынства. Пры забойствах вырашылі выкарыстоўваць пісталет, які немагчыма было б пасьля апазнаць – пісталет якім у Беларусі выконваюцца сьмяротныя пакараньні ў сьледчым ізалятары. Гэты пісталет даваўся Паўлічэнку на два-тры дні, а пасьля выкананьня заказу вяртаўся на месца. Схема «ідэальнага забойства» была выпрабаваная на крымінальных аўтарытэтах. Першым зьнік бяз вестак беларускі "злодзей у законе" Шчаўлік.

...Пасьля зьнікненьня "аўтарытэтаў" шуму ніхто не ўздымаў. Схему палічылі ідэальнай і пачалі даручаць групе больш сур'ёзныя «заказы» – палітычныя. Зьнікае Захаранка, потым Ганчар з Красоўскім, Завадзкі. Усе ўказаньні на правядзеньне аперацыяў паступалі да Паўлічэнкі непасрэдна ад Сівакова (міністр МУС). Сівакоў атрымліваў іх ад Шэймана (тады сакратар Савету бясьпекі). Пасьля адстаўкі Сівакова (2000 г.) група перайшла пад поўны кантроль новага міністра ўнутраных справаў Навумава (да гэтага працаваў кіраўніком службы бясьпекі прэзідэнта). Усяго групай было зьдзейсьнена *больш за 30 забойстваў*.

Але з Завадзкім у групы атрымаўся пракол. А. Случак прыходзіць да высновы, што Завадзкі быў выкрадзены і забіты з-за таго, што быў асабістым аператарам Лукашэнкі, аднак затым пакінуў яго і перайшоў на працу да П.Шарамета. А як вядома, гаворыць Случак, Лукашэнка нічога не забывае і нічога не даруе... У інтэрв'ю Случак таксама паведаміў, што ў 2000-2001 г.г. пры дзіўных абставінах памерлі два опэрупаўнаважаныя крымінальнага вышуку, якія займаліся раскрыцьцём гэтых злачынстваў, зьдзейсьненых "эскадронам сьмерці"...

**Г**этая інфармацыя была надрукаваная ва ўсіх незалежных СМІ Беларусі, а відэакасета прадэманстраваная па расійскіх тэлеканалах. Сьцьвярджэньне, што ў Беларусі дзейнічаюць "эскадроны сьмерці", выклікала шок у грамадзянаў краіны.

Пасьля першага ананімнага ліста А.Лукашэнка, каментуючы яго, сказаў: "клянуся сваімі дзецьмі, што гэта хлусьня", дык пасьля зьяўленьня відэаінтэрв'ю проста маўчаў. Праўда, неяк назваў Паўлічэнку «чэсным афіцэрам і інтэлектуалам».

У ліпені 2001 году да раней прыведзеных А. Случакам і Дз.Петрушкевічам *фактаў былі дададзеныя новыя* дакументы. 13 ліпеня 2001 году кандыдат у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ганчарык на сваёй прэс-канферэнцыі абнародаваў некалькі копіяў рукапісных тэкстаў, якія былі рапартамі начальніка галоўнага ўпраўленьня крымінальнай міліцыі МУС генерал-маёра Мікалая Лапаціка і начальніка мінскага СІЗА палкоўніка ўнутранай службы Алкаева міністру ўнутраных справаў Навумаву. З рапартаў вынікала, што і сапраўды гэтакзваны "расстрэльны пісталет" выдаваўся Дз.Паўлічэнку ў дні, што папярэднічалі зьнікненьням вядомых людзей.

Трэба адзначыць, што ўлады зрабілі некалькі ўдалых крокаў дзеля нейтралізацыі гэтай інфармацыі, дыскрэдытацыі даверу да гэтай інфармацыі ў звычайнага *абывацеля*, асабліва ў правінцыі, куды не даходзяць сьпецвыпускі незалежных выданьняў. Галоўная стаўка ўладаў была зробленая на прапаганду Беларускага тэлебачаньня, дзе інфармацыйная кампанія дэмакратычных сілаў пад назвай «Хочам ведаць праўду» выстаўлялася, як справакаваная і шчодра аплочаная заходнімі сьпецслужбамі змова супраць незалежнай Беларусі і яе прэзідэнта. Паколькі ў кандыдатаў ад дэмакратычных сілаў не было магчымасьці з дапамогай тэлебачаньня і дзяржаўнага друку расказаць выбаршчыкам праўду, А.Лукашэнка

(Працяг на стар.7)

# Пагражаюць выключэньнем

## за ўдзел у зьезьдзе Задзіночаньня беларускіх студэнтаў

7-га траўня дзевяць сяброў Столінскай суполкі Задзіночаньня беларускіх студэнтаў (Берасьцейская вобласьць) былі выкліканыя на размову з дырэктарам Столінскага дзяржаўнага аграрана-эканамічнага коледжу Васілём Ігнатавічам Комікам. Ён паведаміў, што іх, студэнтаў апошняга і перадапошняга курсаў, сярод якіх ёсьць прэтэндэнты на чырвоныя дыпломы, зьбіраюцца выключыць з коледжу за ўдзел у дзейнасьці ЗБС, а фармальная прычына – пропуск шасьці гадзінаў заняткаў.

Рэч у тым, што 27-28 красавіка сябры Столінскай суполкі ЗБС удзельнічалі ў 7-м зьезьдзе ЗБС і адначасова ва ўстаноўчым сходзе арганізацыі "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў – Назаўсёды". У зьвязку з гэтым яны вымушаныя былі прапусьціць заняткі ў суботу 27-га красавіка. На гэтай падставе іх зьбіраюцца выключаць з коледжу.

Справу распачаў намесьнік дырэктара па выхаваўчай працы Канстанцін Андрэевіч Бакавец, дарэчы, як і В.Комік, таксама былы супрацоўнік райкаму партыі. Ён зарганізаваў "педсавет" з абраных выкладчыкаў і завучаў (усяго 8 чалавек), на які не былі дапушчаныя выкладчыкі, што падтрымліваюць ЗБСаўцаў, а такіх большасьць. На гэты "педсавет" былі запрошаныя "небясьпечныя" навучэнцы і бацькі некаторых з іх. Ім было паведамлена аб намеры выключэньня ЗБСаўцаў з коледжу. Пры гэтым у саміх навучэнцаў не было магчымасьці выказацца.

Пасьля гэтага Старшыня Рады ЗБС Вольга Кузьміч і журналіст рэдакцыі "Студэнцкай газеты" Юры Сідун мелі размову з дырэктарам коледжу В.Комікам. Яны запатрабавалі тлумачэньняў, на якіх падставах адміністрацыя зьбіраецца выключаць навучэнцаў. В.Комік адказваў: "Не магу патлумачыць. Я заняты. 10-га я запрашу ўсіх бацькоў. Я ўсіх выключу. І ня толькі за пропускі. У нас ёсьць правілы. Частка студэнтаў непаўнагадовыя, і іх прыцягнулі на незаконных асновах. Сярод трох, якія паўнагадовыя, ёсьць лідэры, якія іх уцягваюць. Маладых людзей трэба выхоўваць, у тым ліку і тых, хто ўцягвае моладзь у свае арганізацыі". Да існаваньня любых недзяржаўных арганізацыяў В.Комік ставіцца адмоўна, бо яны нібыта "пярэчаць афіцыйнаму курсу дзяржавы, прэзідэнта, афіцыйнаму курсу нас як навучальнай дзяржаўнай установы". Вялізны партрэт Леніна над галавой дырэктара наўпрост тлумачыць ягонае стаўленьне да грамадзка-актыўных студэнтаў.

Паказаць статут коледжу В.Комік адмовіўся. Выснову зрабіць нескладана: пропускі – толькі фармальная нагода пазбавіцца ад грамадзка-актыўных маладых людзей. Але нават яна недастатковая. Як вядома, студэнта можна выключыць толькі на падставе дзьвюх вымоваў і за значна большую колькасьць пропускаў. Але ніякіх вымоваў не было, а Статут установы так і не паказалі ні навучэнцам, ні Старшыні Рады ЗБС.

Гэта ўжо ня першая спроба ўладаў зашкодзіць дзейнасьці ЗБС шляхам уціску сяброў арганізацыі праз адміністрацыі навучальных установаў, размовы з бацькамі. Да прыкладу, летась усе сябры суполкі ЗБС г.Оршы былі паасобку выкліканыя на размову з адміністрацыяй. Рада ЗБС заяўляе, што не пакіне ніводнага свайго сябра без падтрымкі, ніводнага студэнта без дапамогі ў адстойваньні ягоных правоў.

**Паводле паведамленьня прэс-службы ЗБС.**

# З надзеяй на справядлівасьць Феміды

У Праваабарончы цэнтр "Вясна" зьвярнулася маці Юрыя Казлоўскага – капітана пагранвойскаў, начальніка зьмены аддзяленьня мытнага кантролю аэрапорту "Мінск-2", супраць якога вылучаны абвінавачаньні ў дачы хабару і махлярстве.

Сьледзтва па справе Ю.Казлоўскага ўжо сканчанае, і матэрыялы перададзеныя ў суд. Прэс-служба Пракуратуры РБ распаўсюдзіла прэс-рэліз, у якім паведамілa пра абвінавачаньні, якія прад'яўляюцца памежніку і пра маючы адбыцца суд. Шмат у якіх газетах прайшла гэтая інфармацыя, і падавалася яна амаль што паўсюль з абвінаваўчым ухілам.

У сваю чаргу маці абвінавачваемага Ларыса Фёдараўна Казлоўская, зьвярнуўшыся да праваабаронцаў, папрасіла дапамогі ў прыцягненьні ўвагі грамадзкасьці да незаконных, па яе сьцьверджаньні, абвінавачаньняў, якія вылучаныя супраць сына, і супраць стварэньня яшчэ да суда ў СМІ вобразу сына як злачынцы.

Вядома, віна альбо невінаватасьць Ю.Казлоўскага будзе вызначаная судом, але маці Юрыя вельмі заклапочаная тым, што сьледзтва вялося аднабакова і неаб'ектыўна, аказваўся псіхалагічны ціск як на Юрыя, так і на яе самую. Жанчыну прымушалі паўплываць на сына, каб той прызнаў сваю віну хаця б часткова.

Паколькі Ларыса Фёдараўна ўпэўненая ў невінаватасьці сына, яна змагаецца за аднаўленьне справядлівасьці і ня хоча, каб Юры стаў ахвярай ілжывага абвінавачаньня.

Ларыса Фёдараўна распавяла, што Юрыя затрымалі 20 чэрвеня 2001 году на вул. Бабруйскай у Мінску і 23 чэрвеня Беларускай вайсковай пракуратурай ён быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў сьледчым ізалятары. Спачатку яму было прад'яўленае абвінавачаньне па арт. 430 ч.2 КК РБ – атрыманьне хабару ў памеры 500 даляраў ЗША шляхам вымаганьня ў грамадзяніна Афганістану, які мае статус бежанца і жыве ў Мінску. Падчас сьледзтва абвінавачаньне было перакваліфікаванае па двух іншых артыкулах – 209 ч.1 і ч.2 КК РБ і ч.5 арт. 16 і 431 ч.1 і ч.2 КК РБ (махлярства і дача хабару).

Маці памежніка лічыць, што затрыманьне і абвінавачаньне сыну вылучанае з мэтай прыбраць яго з працы на мяжы і стварыць магчымасьць бесперашкоднага пераходу граніцы парушальнікамі і нелегальнымі грамадзянамі з іншых краінаў. Сапраўды, за час службы Юрыем Казлоўскім і ягонай зьменай было выяўлена і затрымана 118 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь, а за пачатак 2001 году – 19 такіх парушальнікаў.

Вядома, для кожнай маці сваё дзіця – найлепшае, але ў дадзенай сітуацыі прывядзем сухія факты, якія сьведчаць пра асобу Юрыя Казлоўскага: мае кваліфікацыю 1 класу, у 2000-2001 г.г. узнагароджаны граматамі Старшыні ДК ПВ Беларусі як заняўшы 3 месца ў спаборніцтве на лепшага начальніка зьмены падразьдзяленьняў пагранічнага канролю Пагранічных войскаў РБ, Старшынёй ДК ПВ Рэспублікі Беларусь узнагароджаны нагрудным знакам 1 і 2 ступені ў 1999 і 2001 годзе як выдатнік пагранічных войскаў, знаходзіцца ў рэзерве Старшыні ДК ПВ Рэспублікі Беларусь дзеля вылучэньня па службе.

За свайго служачага заступіўся і Дзяржаўны камітэт пагранічных войскаў. Старшыня Дзяржкамітэту пагранічных войскаў А.Паўлоўскі накіраваў вайсковаму пракурору В. Любавіцкаму ліст, у якім указаў, што "За час праходжаньня службы капітан Казлоўскі Ю.І. праявіў сябе як граматны, добра падрыхтаваны афіцэр. Пры прыняцьці рашэньня ў адносінах да капітана Казлоўскага Ю.І. прашу прыняць пад увагу, што падчас выкананьня службовых абавязкаў раней падобных парушэньняў не дапускаў". Больш за тое, знаходзячыся пад сьледзтвам, Юры Казлоўскі быў узноўлены на сваім працоўным месцы і працягвае службу, што сьведчыць пра давер да гэтага чалавека з боку кіраўніцтва і калегаў.

Маці Юрыя гаворыць: "Я лічу, што мой сумленны сын камусьці няўгодны, ён заўсёды быў сапраўдным афіцэрам, надзейнай перашкодай для грамадзянаў, якія спрабуюць незаконна праехаць у нашую краіну, і менавіта з-за гэтага яго падставілі. На дадзены момант службовыя асобы Беларускай вайсковай пракуратуры зацікаўленыя ў тым, каб любымі спосабамі даказаць факт злачынства, і я ня ўпэўненая, што яны, маючы вялікія ўладныя паўнамоцтвы, не даб'юцца гэтага".

Надзея застаецца толькі на справядлівы і бесстаронні суд. Калі Феміда дзейнічае з закрытымі вачыма, магчыма, яна ўсё ж пачуе довады Юрыя Казлоўскага і ягонай абароны. Дарэчы, маці Юрыя, цалкам упэўненая ў невінаватасьці сына і выступае ў якасьці ягонага абаронцы як законны прадстаўнік.

**Інфармацыйны аддзел ГА ПЦ "Вясна".**

 




Фота "ПнВ"

# Інваліды-калясачнікі адстойваюць свае правы

7 траўня каля 30 інвалідаў-калясачнікаў правялі ў Мінску мітынг пратэсту супраць сучаснай сацыяльнай палітыкі беларускіх уладаў. Наладзіла акцыю Беларуская асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў, якая аб'ядноўвае звыш 600 чалавек. Удзельнікі акцыі трымалі плакаты: "Прэзідэнт! Хто адкажа за невыкананьне законаў аб сацыяльнай абароне інвалідаў?". "Дэмакратыя – гэта роўныя правы і магчымасьці", "Выпусьціце нас з хатняй турмы".

Удзельнікі мітынгу лічаць, што кіраўніцтва краіны адносна беларускіх інвалідаў парушае артыкул 21 Канстытуцыі рэспублікі ("Годнае жыцьцё"), артыкул 30 ("Свабода руху"), артыкул 37 ("Удзел у жыцьці дзяржавы"), артыкул 41 ("Права на працу"), артыкул 45 ("Права на ахову здароўя, забесьпячэньне магчымасьці займацца фізічнай культурай і спортам"), артыкул 47 ("Права на годнае сацыяльнае забесьпячэньне"), артыкул 48 ("Права на даступнае жыльлё"), артыкул 49 ("Прва на адукацыю"), артыкул 51 ("Права на ўдзел у культурным жыцьці"), а таксама артыкул 60 ("Абарона правоў і свабодаў").

Пасьля заканчэньня мітынгу ўдзельнікі яго правялі збор подпісаў пад адкрытым лістом да Аляксандра Лукашэнкі, у якім патрабавалі "неадкладнага прыняцьця дэкрэту, які вызваляе інвалідаў-калясачнікаў ад аплаты ўсіх падаткаў, збораў, пошлінаў і іншых плацяжоў".



Фота "ПнВ"

# Зьвестак няма...

(Пачатак на стар.4-5)
напоўніцу скарыстаў сітуацыю і ў выніку змог перамагчы на выбарах, так і не адказаўшы на ніводнае з абвінавачаньняў вылучаных супраць яго па зьнікненьні ў Беларусі вядомых людзей.

Ёсьць яшчэ адна версія зьнікненьняў В.Ганчара, А.Красоўскага, Ю.Захаранкі. Яе распавёў вязень сумленьня, дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Андрэй Клімаў. Клімаў быў асуджаны па надуманых эканамічных абвінавачаньнях на 7 гадоў пазбаўленьня волі і правёў у турме 4 гады. У 2002 годзе ён быў амніставаны пад ціскам міжнародных праваабарончых арганізацыяў. Калі ён знаходзіўся ў СІЗА г. Мінску (а менавіта там прыводзяць у выкананьне сьмяротныя пакараньні), зьняволеныя распавядалі гісторыю аб тым, што Ганчара, Красоўскага і Захаранку расстралялі ў СІЗА, а затым захавалі на паўночных могілках, там дзе звычайна хаваюць расстраляных злачынцаў. Клімаў сьцьвярджае, што перад тым як расстраляць Ганчара, Красоўскага і Захаранку, ім быў зачытаны судовы прысуд, які напісаў адзін з судзьдзяў, магчыма, Вярхоўнага суда РБ. Але ніякага судовага працэсу, натуральна, не было, прысуд вынесьлі завочна.

Гэтая гісторыя так і засталася нераскрытай. У ёй шмат "белых плямаў". Адзінай высокапастаўленай асобай, якая дала паказаньні па гэтай справе быў былы начальнік мінскага СІЗА Алкаеў, які зараз жыве пад пільнай аховай паліцыі ў Нямеччыне. З сабой ён зьвёз і журнал рэгістрацыі выдачы расстрэльнага пісталету, дзе ёсьць запісы аб выдачы Паўлючэнку пісталету, а даты супадаюць з датамі зьнікненьня Захаранкі, Ганчара і Красоўскага. А. Лукашэнка таксама не жадаючы таго ўскосна пацьвердзіў інфармацыю, аб тым што «Эскадроны сьмерці» зьнішчалі крымінальных аўтарытэтаў. У адным з інтэрв'ю падчас паездкі ў Гомель Лукашэнка сказаў, што крымінальнікі спрабавалі дыктаваць яму сваю волю але ён хутка з імі разабраўся і ўсе ведаюць «дзе цяпер усе гэтыя Шчаўлікі». Усе астатнія захоўваюць маўчаньне: і Лапацік, які пісаў рапарт на імя Навумава, і былы генеральны пракурор Бажэлка, які пасьля адстаўкі пераехаў у Расію, дзе нечакана сышоў у праваслаўны манастыр. Ёсьць прысуд Вярхоўнага суда па справе зьнікненьня Завадзкага, згодна з якім Ігнатовіч і Малік асуджаныя да пажыцьцёвага зьняволеньня, але які так і не даў адказа на пытаньне дзе Завадзкі.

Ёсьць родныя зьніклых, якія чакаюць сваіх сыноў, мужоў, бацькоў чакаюць і вераць, што яны калі-небудзь вернуцца да якіх.

Але я веру ў тое, што рана ці позна мы даведаемся ўсю праўду аб зьнікненьнях беларускіх палітыкаў, проста людзей. Даведаемся ўсю праўду, якой бы горкай яна ні была. Даведаемся і імёны тых, хто меў дачыненьне да гэтых злачынстваў, каб аддаць іх справядліваму суду. Зло не павінна заставацца беспакараным.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ.**

# Як я быў "добраахвотнікам"

(Пачатак на стар.3)
Аднойчы ў Нароўлю прывезьлі дэлегацыю нейкіх важных работнікаў партыі з Масквы. Бачна было, што яны таксама "добраахвотнікі". Яны шарахаліся ўсяго і хадзілі па зямлі, як па распаленым вугольлі. Госьці цураліся мясцовых, баяліся нават падаць руку. Гасьцінныя беларусы прапанавалі "маскалям" падсілкавацца: зьесьці тое, што ядуць дзеці ў школе. Гэта толькі прысьпешыла момант разьвітаньня: у паніцы, пад насьмешкі прысутных, прадстаўнікі братняга народу і кампартыі ўвапхаліся ў свой аўтобус і зьехалі ў бок Мазыра на пост радыяцыйнага кантролю і дэзактывацыі.

Калі тэрмін майго 6 месячнага кантракту скончыўся, я прыйшоў па працоўную кніжку ў Нараўлянскі РАНА, але замест таго, каб зрабіць адпаведны запіс і разьвітацца са мной, старшыня РАНА пазваніў у інстытут рэктару і не саромячыся, у маёй прысутнасьці заявіў: "У мяне ваш "дэзерцір"!" На той час гэта азначала для мяне канец кар'еры і ганьба да канца дзён маіх і маіх дзяцей. На шчасьце рэктара не было і ён патрапіў да прарэктара. Яна папрасіла даць мне слухаўку і сказала: "Ня бойся, я ўсё разумею, папрацуй яшчэ пару дзён да заканьчэньня заняткаў у школе, а з "дзяржіспытамі" я ўсё ўладжу."

Камуніст-кіраўнік з хамскім мурлом зьдзекліва ўсьміхаўся ад асалоды. Я ж глядзеў яму ў вочы і думаў: "Маюць рацыю людзі, калі кажуць: няма горшага пана – за пана з хама".

...З таго часу мінула шмат гадоў. Я ніколі не атрымліваў ніякіх ільготаў, як "чарнобылец". Чынавенства ў Берасьці неаднаразова ашуквала мяне, кажучы, што вёска Вербавічы не ўваходзіць у сьпіс пацярпелых вёсак, а таму мне "нічога не паложана". І толькі 12 траўня 1998 году праз 12 гадоў пасьля аварыі на ЧАЭС я атрымаў пасьведчаньне "ліквідатара". Я ніколі не карыстаўся гэтым пасьведчаньнем і не буду ім карыстацца – гонар не дазваляе мне рабіць гэта. Я лічу, што даўно прыйшоў час беларусам пачаць дбаць пра сябе, пра сваю Богам дадзеную краіну, пра свой дабрабыт, і пахаваць назаўсёды ўсякія памкненьні да Саюзу, інтэграцыі. Ніхто апроч нас саміх наладжваць нармальнае жыцьцё ў Беларусі ня будзе!

**Уладзімір ВЯЛІЧКІН,**
**старшыня Берасьцейскага абласнога аддзяленьня ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна".**

 

# Новае скарыстаньне "Траянскага каня"

## Альбо які маркетынг ва ўстанове "ЛіМ" зьбіраецца праводзіць былы дзяржаўны "праваабаронца" Яўген Новікаў

Стварэньне дзяржаўнага "холдынгу" на базе літаратурна-мастацкіх часопісаў і газеты "ЛіМ" працягваецца. Новыя кіраўнікі дэманструюць сваю недасьведчанасьць у справах абраных дзеля ўласных эксьперыментаў выданьняў. Міністэрства інфармацыі РБ, блытаючыся ў сваіх паўнамоцтвах, запытваецца ў сакратаркі газеты "Літаратура і мастацтва", кім жа працуе ў газеце Алесь Пісьмянкоў (галоўны рэдактар!). Неўзабаве пачнуць працу так званыя ліквідацыйныя камісіі... А супрацоўнікі "Крыніцы", "Полымя", "Нёмана" пішуць заявы аб звальненьні ў знак пратэсту супраць гвалту на дзяржаўным узроўні.

Уся незадаволенасьць дзеяньнямі дзяржавы ў адносінах да паважаных беларускіх перыёдыкаў выліваецца на славяніста Сяргея Касьцяна, кіраўніка новастварaемага холдынгу. Між тым ключавой фігурай "тройкі" Касьцян-Новікаў-Бондар (кіраўнік і намесьнікі) нам падаецца не дэпутат лукашэнкавай "палаткі", а "праваабаронца" Новікаў. Большасьці беларусаў ён вядомы як аўтар і вядучы такіх адыёзных праграмаў Нацыянальнага тэлеканалу як "Правы чалавека. Позірк у сьвет", "Ёсьць пытаньне", "Размова па сутнасьці". Аднак для таго, каб зразумець сапраўдную мэту стварэньня холдынгу варта зазірнуць у недалёкае мінулае "тэлезоркі". Прыгадаем "метады працы" чалавека, які, як плануецца, будзе загадваць маркетынгам у "холдынгу".

У 2000-м годзе Вярхоўны суд РБ прыняў рашэньне аб ліквідацыі Беларускай рэспубліканскай лігі правоў чалавека (БРЛПЧ). Пікантнасьць сітуацыі заключалася ў тым, што ініцыятарам і актыўным удзельнікам закрыцьця гэтага грамадзкага аб'яднаньня стаў былы старшыня яго і заснавальнік... Яўген Новікаў.

Крыху раней Я.Новікаў быў пазбаўлены пасады старшыні і звольнены з ліку сяброў лігі падчас кангрэсу БРЛПЧ. Прапанова звольніць былога кіраўніка была ўспрынятая з разуменьнем усімі прысутнымі на кангрэсе, а адпаведную пастанову ўхвалілі аднагалосна. Лаяльны да ўладаў "праваабаронца" пазбавіўся крэсла – увага! – за "невыкананьне статутных мэтаў і задачаў, наўмыснае блакаваньне дзейнасьці выканкаму, перавышэньне паўнамоцтваў старшыні і выкарыстаньня БРЛПЧ дзеля дасягненьня асабістых карысьлівых мэтаў". Тады ж былыя таварышы абвінавацілі Новікава ў прысабечваньні саліднага грашовага гранту, кватэры і наўмыснай дыскрэдытацыі праваабарончага руху.

Нягледзячы на сур'ёзнасьць вылучаных абвінавачаньняў, Новікаў ня толькі не прыцягнуў да сябе ўвагі беларускіх праваахоўных органаў, але і бяз цяжкасьці зарэгістраваў нейкую Лігу абароны правоў чалавека (ЛАПЧ). Пры гэтым ён не забыўся адпомсьціць сваім крыўдзіцелям з БРЛПЧ і ініцыяваў у Міністэрстве юстыцыі працэс ліквідацыі арганізацыі, з якой яго выгналі.

Цікава, што яшчэ ў працэсе стварэньня БРЛПЧ Я.Новікаў паклапаціўся пра прысутнасьць у арганізацыі "падводных камянёў". Так, зьяўляючыся ў свой час звольненым з Беларускай лігі правоў чалавека (БЛПЧ), Новікаў рэгістраваў БРЛПЧ зусім не бездакорна з пункту гледжаньня закону. Па словах пракурора, чальцоў БРЛПЧ і самога Новікава, у арганізацыі ад пачатку склалася "убогая обстановка". Фактычна не вялася ніякая рэальная праца, не праводзіліся паседжаньні выканкаму, не афармляліся дакументы. І гэта пры тым, што ў ліку заснавальнікаў меліся ахвяры палітычных рэпрэсіяў часоў існаваньня СССР. Ня дзіўна, што не адчуваючы карысьці ад існаваньня такой лігі, з яе пачаўся зыход чальцоў.



Калі ж ад адыёзнага кіраўніка вырашылі пазбавіцца, высьветлілася, што актывісты сякуць сук, на якім сядзяць. Злапамятлівы Новікаў напісаў у Мінюст РБ два лісты. У адным з іх ён даказваў нелігітымнасьць кангрэсу і настойваў на тым, што працягвае выконваць абавязкі старшыні БРЛПЧ. У другім прасіў выкрасьліць "яго" арганізацыю са сьпісу зарэгістраваных. Мінюст з зайздроснай аператыўнасьцю прызнаў вынікі згаданага кангрэсу юрыдычна неправамоцнымі і вынес БРЛПЧ два папярэджаньні "аб недапушчальнасьці парушэньня заканадаўства".

Падставай дзеля вынясеньня папярэджаньняў сталіся бланкі, на якіх Я.Новікаў напісаў свае пасланьні ў Мінюст, і правядзеньне "нелігітымнага" кангрэсу. Міністэрства юстыцыі зьвярнулася ў Вярхоўны суд РБ аб забароне БРЛПЧ. І тут пачалося самае цікавае. Абгрунтоўваючы неабходнасьць вынясеньня рашэньня адносна лігі, прадстаўнік Мінюсту прывёў доказ аб прысутнасьці фальсіфікацыяў у дакументах, пададзеных у міністэрства падчас перарэгістрацыі БРЛПЧ у 1999 годзе. Вось і высьветлілася, што ў падрыхтаваных і пададзеных Я.Новікавым у Мінюст РБ матэрыялах маюцца "ліпавыя" подпісы, быццам бы выканаўчага сакратара. Апроч таго, у сьпісе "чальцоў і заснавальнікаў" арганізацыі зьявіліся "мёртвыя душы" (чальцы даўно не існуючай БЛПЧ).

Між іншым, нягледзячы на ўяўную розьніцу інтарэсаў "праваабаронцы" і Мінюсту, у залі суда паміж Новікавым і чыноўнікамі назіралася поўная гармонія. Тады БРЛПЧ перастала існаваць, а Новікаў выйшаў сухім з вады і ўзначаліў новую, ужо трэцюю па ліку прапрэзідэнцкую лігу.

Прайшло два гады, і вопыт прафесійнага разбуральніка праваабарончых арганізацыяў быў запатрабаваны ў іншым рэчышчы. Ужо сёньня можна пабачыць некаторыя з магчымых "падводных плыняў". Так дагэтуль незразумела, хто даў "камісарам" паўнамоцтвы? (Вядома, што міністр інфармацыі М.Падгайны вымушаны быў падпісаць пастанову аб стварэньні холдынгу "ЛіМ", хаця і быў першапачаткова супраць яго). Якое яны маюць права звальняць (ці наадварот прымаць на працу) людзей? Як вядома, усе рэдактары заключалі кантракты з Міністэрствам інфармацыі і асабіста М.Падгайным. Больш за тое, супрацоўнікам абяцаюць, што ўсе рэдакцыі як бы СПЫНЯЦЬ СВАЮ РАБОТУ, а затым ...запрацуюць ЛІКВІДАЦЫЙНЫЯ камісіі. З гледзішча законаў усё вельмі і вельмі сумніўна. Што ж будзе заўтра вядома, бадай аднаму Я.Новікаву... Карацей, прэзідэнцкаму "траянскаму каню" і "праваабаронцу" ўсё дазволена: нават парушэньне Закону аб друку, Канстытуцыі і правоў грамадзянаў на працу і свабоду слова.

**Вадзім ДОЎНАР.**

Права на волю. Бюлетэнь Грамадскага аб'яднання "Праваабарончы цэнтр "Вясна". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ. Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220013 Менск, а/с 49. E-mail:viasna@spring96.org www.spring96.org

У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву ГА ПЦ "Вясна"